СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск —4.42, 21.43, 17.01;
Віцебск —4.24, 21.42, 17.18;
Магілёў —4.32, 21.33, 17.01;
Гомель —4.39, 21.20, 16.41;
Гродна —5.00, 21.57, 16.57;
Брэст —5.09, 21.48, 16.39.
МЕСЯЦ:
Маладзік 30 чэрвеня.
ІМЯНІНЫ:
Мяфодзія, Глеба, Андрэя, Іны, Апанаса;
Яцка, Анатоля.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

3 ЛІПЕНЯ 1992 г.
пятніца, № 132 (21910)

● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### НАМ ПАГРАЖАЕ РУБЛЁВЫ ЧАРНОБЫЛЬ?

Ёсць звесткі, што Украіна выходзіць з рублёвай зоны. «У выпадку, калі беларускі рынак акажацца ў выніку гэтага запоўненым расійскімі грошамі,—заявіла начальнік упраўлення грашовага абарачэння Нацыянальнага банка Беларусі Тамара Каржанеўская,—дык наша рэспубліка цалкам пяройдзе на разліковыя білеты, а рублі будуць зняты з абарачэння».

Любая дзяржава СНД, прыняўшы рашэнне аб уводзе сваёй нацыянальнай валюты, павінна зняць з абарачэння ранейшыя грошы і здаць іх у Расійскі банк. Калі ўмовы дагавора якой-небудзь з рэспублік не будуць выкананы, то яе суседзі будуць вымушаны абараняцца.

Святлана КУЛІКОВА,
БелаПАН.

### ДА ЎРУЧЭННЯ ВЯРЫЦЕЛЬНЫХ ГРАМАТ



Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Аўстрыйскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Фрыдрых Баўэр 2 ліпеня ўручыў вярыцельныя граматы кіраўніку беларускага парламента Станіславу Шушкевічу.

Фрыдрых Баўэр нарадзіўся 23 кастрычніка 1930 года. Закончыў факультэт юрыдычных і грамадска-палітычных навук Венскага Універсітэта. У 1953 годзе яму прысуджана званне доктара юрыдычных навук.

У гэтым жа годзе Фрыдрых Баўэр паступіў на службу ў федэральнае міністэрства замежных спраў Аўстрыі. З 1955 года — супрацоўнік аддзела замежных спраў ведамства федэральнага канцлера Аўстрыі. З 1958 года працаваў у пасольстве Аўстрыі ў Бялградзе, з 1960 года — у цэнтральным апараце федэральнага міністэрства замежных спраў, з 1963 года — у пасольстве Аўстрыі ў Тэль-Авіве.

Затым з 1966 года ён — зноў у цэнтральным апараце МЗС. З 1970 года — загадчык бюро па міжнародных канферэнцыях і арганізацыях міністэрства замежных спраў, з 1973 года — пасол Аўстрыі ў Берліне, з 1977 года — загадчык аддзела палітычнага ўпраўлення МЗС і намеснік палітычнага дырэктара, з 1979 года — загадчык палітычнага ўпраўлення МЗС, з 1983 года — намеснік генеральнага сакратара па замежных справах. У 1986 годзе назначаны паслом Аўстрыі ў Боне, з лістапада 1990 года — паслом Аўстрыі ў Маскве.

Жанаты.

МЗС Рэспублікі Беларусь—
(БЕЛТА).

### НАВУКА—НА ПЯЧОРНЫМ УЗРОЎНІ

МІНСК. Навука — рухавік прагрэсу. А ці не заглухне гэты рухавік у сувязі са штодзённымі катаклізмамі? Толькі за апошні час амаль 1,5 тысячы маладых таленавітых вучоных пакінулі беларускую Акадэмію навук. Не спынім «уцечку мазгоў», — можам скаціцца да пячорнага ўзроўню. Напэўна, ёсць аб чым задумацца.



3 ЛІПЕНЯ — ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

# СВЕТЛЫХ ДЗЁН У НАШАЙ ГІСТОРЫІ БЫЛО НЯШМАТ. СЁННЯ—АДЗІН З ІХ

Мы таксама былі амаль шчаслівыя. Народ-пераможца, выратавальнік свету. Перамога далася цяжка, але інакш было нельга. І святымі былі для кожнага словы Хатынь, Брэсцкая крэпасць...
І штогод святкаваўся Дзень вызвалення — 3 ліпеня.

Мудрэйшымі за апошнія некалькі гадоў мы, магчыма, і не сталі, але ведаем цяпер шмат.

Ведаем і пра знішчэнне армейскага камандавання напярэдадні вайны, і пра гульні з Гітлерам, і пра злачынную непадрыхтаванасць да таго, чаго чакалі з дня на дзень. Ведаем пра здрадніцтва тым, хто апынуўся ў акупацыі і палоне, аб правакацыях дыверсантаў-энкусаўцаў, што выклікалі карныя аперацыі немцаў супраць мірнага насельніцтва. Пра асобныя чэкісцкія фарміраванні, заградатрады, якія стралялі з кулямётаў у спіну наступаючых байцоў — каб шпарчэй беглі. Ведаем, як не шкадавалі салдацкай крыві любімыя айцы-генералы і легендарныя маршалы, ужо не кажучы пра Вярхоўнага галоўнакамандуючага. Як наступалі дрэнна навучаныя ўчарашнія сяляне прама на мінныя палі, і толькі потым ішлі сапёры і рабілі там праходы — для танкаў, бо падрываў салдат толькі проціпяхотныя міны, а на проціганкавыя яго жывой вагі не хапала. Ведаем, колькі нашых загінуўшых прыпадае на аднаго забітага немца...

Мы ведаем — і нічога з гэтым не зробіш. Зваротнай дарогі ў няведанне няма. І мы ніколі ўжо не будзем у Дзень Перамогі ці 3 ліпеня такімі прыўзнята-ўрачыстымі. Наіўнасці шкада. Але што з таго? Новыя веды аб падзеях 48-гадовай даўнасці ўсё роўна не заслоняць іх простага сэнсу, а іменна: людзі вызвалялі ад ворагаў сваю зямлю, біліся за яе і гінулі. Як гінулі і раней — на працягу ўсёй гісторыі такога недасканалага чалавецтва. Таму будзем усё памятаць. Урачыстасцей можа і не быць, а памяць быць павінна.

Памяць і павага. Павага да мёртвых, да помнікаў, пад якімі яны ляжаць. Павага да жывых, безабаронных старых з медалямі альбо ордэнскімі планкамі на грудзях. Павага, а не раздражненне, нават тады, калі стары са сваім ветэранскім пасведчаннем бярэ без чаргі кіло каўбасы, альбо ў аўтобусе пачынае гучна павучаць моладзь. Яны жылі, як умелі, ваявалі, як маглі. Іх маладосць, якая здаецца ім цяпер цудоўнай, прыпала на страшныя, цяжкія часы, але і ў старасці, дзякуючы роднай дзяржаве, ім няма заслужанага спакою.
Сённяшнія 20—30-гадовыя, пакладзіце руку на сэрца і шчыра прызнайцеся: ні такой маладосці, ні такой старасці вы для сябе ніколі б не пажадалі.
Дык зрабіце так, каб хоць старасць пераможцаў карычневай чумы выглядала дастойнай Вялікай Перамогі. Гэта абавязак кожнага з нас.

Аляксандр БЯРСУДСКІ.
Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.



## РАДЫЁ ФАКТ

Электронных вартаўнікоў для аўтамабіляў пачынае выпускаць Брэсцкі электрамеханічны канцэрн. Пры спробе выкрадання ўключаецца сістэма сігналаў, якія паступаюць прама ў кватэру аўтааматара.

Ёсць і больш складаны прыбор. Напрыклад, калі злодзей на ўкрадзеным аўтамабілі праедзе міма паста ДАІ, абсталяванага адпаведнымі сістэмамі, то машына сама спыняецца каля міліцыі.

Што ж, гэта добра. Але трэба знайсці такога злодзея, каб сам пад'ехаў да паста ДАІ.

***

**У Маскве аб'яўлена, што 4—5 ліпеня тут ці ў Падмаскоўі адбудзецца XXIX з'езд КПСС, партыйныя структуры якой аб'яўлены па-за законам прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным. Месца правядзення з'езда ўтойваецца.**

**Паводле інфармацыі нашага карэспандэнта з Гомеля, прыкладна 600 былых членаў Камуністычнай партыі Беларусі прайшлі там перарэгістрацыю і аўтаматычна ўліліся ў новую партыю камуністаў Беларусі.**

***

4 ліпеня адкрываецца міжнародны фестываль мастацтваў «Красная плошча запрашае».

Як сказаў дзяржаўны саветнік Расійскай Федэрацыі па палітычных пытаннях, старшыня аргкамітэта фестывалю Сяргей Станкевіч, «Гэта свята ўзніме духоўны патэнцыял народа, дапаможа ўзняцца над бытавымі праблемамі, набыць новую ўпэўненасць у сваіх сілах».

Хочацца ў гэта верыць. Дарэчы, не за гарамі віцебскі фестываль «Славянскі кірмаш».

***

**Што ні дзень, то новыя факты незаконнага вывазу прадуктаў за межы рэспублікі.**

**Міліцэйскі патруль затрымаў грузавік з ноўгарадскімі нумарамі, які ішоў са Слаўгарадскага раёна ў Расію. Багаж быў важкі: 20 скрынак масла, 10—згушчанага малака і столькі ж канцэнтраванага. А закуплена ўсё гэта ў адным з сельскіх магазінаў. Адкуль у маленькім сельпо столькі дэфіцытных тавараў? Адказ на гэта пытанне шукаюць следчыя органы раёна.**

***

Падмуркі раней невядомага храма XII стагоддзя знайшла ў час археалагічных раскопак непадалёк ад Сафійскага сабора ў Полацку экспедыцыя Акадэміі навук Беларусі. Археолагі сведчаць, што ў XI-XIII стагоддзях у Полацку было 10 храмаў і адзін княжаскі церам. Новая знаходка—сенсацыя сёлетняга археалагічнага сезона ў Беларусі.

## Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

### АБ НАДЗВЫЧАЙНЫХ МЕРАХ ПА ФАРМІРАВАННЮ ДЗЯРЖАЎНЫХ РЭСУРСАЎ ЗБОЖЖА У 1992 ГОДЗЕ

У сувязі з крытычнай абстаноўкай, якая складваецца з фарміраваннем дзяржаўных рэсурсаў збожжа, недахватам валютных сродкаў для набыцця яго за рубяжом і ў мэтах задавальнення патрэбнасцей насельніцтва рэспублікі ў хлебапрадуктах, а жывёлагадоўчых комплексаў і птушкафабрык у камбікармах Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць прапанову Дзяржэканомплана, Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, Міністэрства хлебапрадуктаў аб фарміраванні ў 1992 годзе дзяржаўных рэсурсаў збожжа на харчовыя, насенныя, фуражныя мэты і для прамысловай перапрацоўкі ў аб'ёме 4,5 млн. тон, у тым ліку па Брэсцкай вобласці — 733 тыс. тон, Віцебскай — 684, Гомельскай — 686, Гродзенскай — 552, Мінскай — 1.130 і Магілёўскай вобласці — 715 тыс. тон.

2. Прызнаць неабходным увесці на 1992 год замест дзяржаўнага заказу абавязковую пастаўку збожжа ў дзяржаўныя рэсурсы рэспублікі калгасамі, саўгасамі і іншымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі, што вылічваецца з разліку 7,7 кілаграма збожжа за бала-гектар інтэнсіўна выкарыстоўваемых сельскагаспадарчых угоддзяў (ворная зямля, палепшаныя сенажаці і культурная паша).

Устанавіць, што аплата збожжа, якое нарыхтоўваецца ў лік указанай пастаўкі, ажыццяўляецца па цэнах згодна з дадаткам.

У выпадку змянення індэкса цэн на прамысловую прадукцыю (работы, паслугі), набываемую прадпрыемствамі сельскай гаспадаркі, праводзіцца ва ўстаноўленым парадку індэксацыя цэн на нарыхтоўваемае збожжа.

3. У мэтах стымулявання продажу збожжа дзяржаве ўстанавіць, што аплата збожжавых, збожжабабовых і алейных культур, якія нарыхтоўваюцца звыш абавязковай пастаўкі, праводзіцца па цэнах, указаных у дадатку, з надбаўкай у размеры 50 працэнтаў.

Дадатковыя расходы, звязаныя з фарміраваннем дзяржаўных рэсурсаў збожжа, ажыццяўляць у межах выдзеленых датацый на сельскагаспадарчую прадукцыю, хлеб і хлебабулачныя вырабы.

(Заканчэнне на 3-й стар.).




## ВІТАМІННЫ АЛФАВІТ

### Шыпшына (дзікая ружа)

У сухіх пладах шыпшыны звычайна да 1 працэнта вітаміну С. Ёсць у іх і іншыя вітаміны, але ў значна меншай колькасці. Гэта вітаміны Р, карацін, якія ператвараюцца ў арганізме ў вітамін А, вітаміны $B_1$, $B_2$ і К, прысутнасць якіх садзейнічае ўзмацненню дзеяння вітаміну С. Шыпшына мае шэраг арганічных кіслот, солі фосфару, калію, кальцыю, магнію, а таксама жалеза і іншыя мікраэлементы.

Настой пладоў шыпшыны павышае супраціўленне арганізма інфекцыйным захворванням, інтаксікацыям, уздзеянню неспрыяльных умоў надвор'я. Дапамагае ён пры запаленчых захворваннях жоўцевых шляхоў і печані. Водны настой шыпшыны паляпшае харчаванне пры гастрытах, язвеннай хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі. Пры хваробе нырак і мачавога пузыра яго ўжываюць як супрацьзапаленчы, мачагонны і агульнаўмацавальны сродак.

Прыгатаванне настою шыпшыны. 20 г сухіх пладоў прамываюць у халоднай вадзе, затым заліваюць 0,5 літра кіпеню і кіпяцяць пры закрытай накрыўцы 10 хвілін, пасля чаго настойваюць у цёплым месцы 4—6 гадзін і працэджваюць. У настой з пладоў пераходзяць вітаміны і мінеральныя солі. Дабаўляюць па смаку цукар, мёд ці які-небудзь ягадны сіроп і п'юць па паўшклянкі 3 разы на дзень, захоўваюць настой шыпшыны на холадзе не больш чым 2 дні.

Пры прыгатаванні настою добра выкарыстоўваць тэрмас. Плады засыпаюць у тэрмас, заліваюць крутым кіпенем (40 грамаў сухіх пладоў на 1 літр кіпеню) і настойваюць 6—8 гадзін. Пры гэтым спосабе прыгатавання ў настоі вітамінаў будзе больш, чым пры кіпячэнні.

### Чорныя парэчкі

Ягады іх багатыя на вітамін С. Змяшчаюць яны таксама карацін, вітамін Р, арганічныя кіслоты, дубільныя рэчывы і эфірны алей. Ягады выкарыстоўваюць свежымі, сухімі ці ў выглядзе сіропаў і варэння. Для прыгатавання напітку з сухіх ягад чорных парэчак іх заліваюць 2 шклянкамі кіпеню, настойваюць 1 гадзіну і выпіваюць на працягу дня.

У лісці чорных парэчак таксама многа вітамінаў. Побач з ягадамі, яны ўваходзяць у састаў вітамінных збораў. Ягады і лісце чорных парэчак з'яўляюцца цудоўным сродкам для лячэння і прафілактыкі вітаміннай недастатковасці.

### Рабіна

У спелых ягадах рабіны змяшчаецца 60—100 мг працэнтаў вітаміну С, да 18 мг працэнтаў карацінy (правітамін А), а таксама вітамін Р, яблычная і лімонная кіслата, солі калію, кальцыю, магнію і інш. Па колькасці карацінy плады рабіны пераўзыходзяць моркву, а па ўтрыманню вітаміну Р рабіна займае адно з вядучых месц сярод пладова-ягадных культур. Плады чарнаплоднай рабіны больш салодкія і смачныя, чым рабіны звычайнай. Аднак яны значна бяднейшыя на вітамін С і карацін.

Са свежых ягад рабіны можна прыгатаваць вітамінны сіроп ці варэнне. Сухія ягады заварваюць як чай (1 сталовая лыжка сухіх ягад заліваецца шклянкай кіпеню), настойваюць 1 гадзіну, затым выпіваюць за 2—3 прыёмы на працягу дня.

## «Фуражка» ад сонца і ад ветру...



Газетны ліст вельмі проста ператварыць у галаўны ўбор, здольны надзейна ахаваць галаву ад гарачых сонечных промняў і ветру.

Паслядоўнасць ператварэння ліста паказана на малюнках і тлумачэнняў не патрабуе.

## СМАЧНА ЕСЦІ!

### Боршч украінскі з пампушкамі

**300 г ялавічыны, 1 бурак, 400 г свежай капусты, 500 г бульбы, 1 морквіна, корань пятрушкі, 1 цыбуліна, 3—4 долькі часнаку, 1/2 шклянкі тамату-пюрэ ці 4—5 свежых памідораў, 1 сталовая лыжка мукі, 200 г тлушчу, 50 г свінога сала, 1/2 шклянкі смятаны, 1 сталовая лыжка цукру, сок палавіны лімона, зялeніва пятрушкі, чорны молаты духмяны і балгарскі перац, лаўровы ліст.**

**Для пампушак: 360 г мукі, 3/4 шклянкі малака, 20 г цукру, 10 г дражджэй, 30 г алею, 3 долькі часнаку, 80 г квасу для часночнай запраўкі.**

Мяса зварыць да гатоўнасці. Ачышчаны памыты бурак нарэзаць саломкай, пасыпаць соллю, папырскаць сокам лімона, усё перамяшаць, пакласці ў каструлю ці неглыбокую патэльню, дадаць тлушч, сабраны з мяснога булёну, тамат-пюрэ, цукар і тушыць да паўгатоўнасці. Ачышчаныя і прамытыя карані і цыбулю нарэзаць саломкай і спасераваць з тлушчам. Булён працадзіць, мяса нарэзаць кавалачкамі. У працэджаны булён дабавіць нарэзаную долькамі бульбу, давесці да кіпення, апусціць нарэзаную саломкай свежую капусту і варыць 10—15 хвілін, дабавіць пасераваную агародніну, мучную запраўку, балгарскі перац, нашынкаваны тонкай саломкай, спецыі і давесці да гатоўнасці. Гатовы боршч заправіць салам, тоўчаным з часнаком і зялeнівам, давесці да кіпення, даць настаяцца на працягу 20—25 хвілін. Пры падачы на стол дабавіць смятану, мяса, зялeніва. Да баршчу падаць пампушкі з часнаком.

Пампушкі прыгатаваць так. У цёплым малацэ развесці дрожджы, соль, цукар, дабавіць алей і муку, замясіць цеста і пакінуць для бражэння. Гатовае цеста падзяліць на кавалкі масай па 25 г, скатаць шарыкі, пакласці на бляху, змазаную алеем, даць падысці і выпякаць пры тэмпературы 180—210°С. Часночную запраўку гатуюць так. У тоўчаны часнок дабаўляюць соль, алей, квас і ўсё перамешваюць, потым атрыманай запраўкай заліваюць свежаспечаныя пампушкі.

# БЕЛАРУШЧЫНА

● 36 урокаў для касіра

● Нядродны ўнук роднага дзеда

● Што друкаваць?

ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

## Дзяржаўны ашчадны банк разумее па-беларуску

**У мінулым выпуску «Беларушчыны» быў надрукаваны ліст нашага чытача У. Малашчанкі пра тое, што ў філіяле № 1169/059 Мазырскага аддзялення Ашчаднага банка яму было адмоўлена ў выдачы разліковых білетаў, паколькі ордэр ён запоўніў па-беларуску.**

ШЧЫРА КАЖУЧЫ, мы і самі не чакалі, што публікацыя выкліча такі рэзанас — у рэдакцыю сталі тэлефанаваць чытачы, расказваючы, дзе і якім чынам яны траплялі ў сітуацыю, калі супрацоўнікі нацыянальнага банка не разумелі (альбо не хацелі разумець) дакументы, запоўненыя на беларускай мове.

Што гэта? Тэндэнцыя, пэўны накірунак ашчадбанка ў адносінах да беларусізацыі ці папросту недарэчныя памылкі, без якіх не абыходзіцца ніводная справа? Каб канчаткова расставіць кропкі над «і», мы звярнуліся ва ўпраўленне Дзяржаўнага ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь.

— Пасля прыняцця Закона аб мовах ва ўсе абласныя ўпраўленні ашчадбанка было накіравана пісьмо-тлумачэнне наконт таго, што запоўненыя на беларускай мове прыходна-расходныя дакументы павінны прымацца бесперашкодна, — сказаў **намеснік начальніка ўпраўлення Дзяржашчадбанка Ігар РУДЫ**. — Аднак некаторыя нашы супрацоўнікі праяўляюць «самадзейнасць» накшталт мазырскай (аналагічныя інцыдэнты былі ў Жлобінскім, Салігорскім, некаторых іншых філіялах). У кожным выпадку парушэння закона прымаліся канкрэтныя меры, вінаватыя неслі дысцыплінарную адказнасць.

— Дадам, што пасля некалькіх выпадкаў неабгрунтаванага адмаўлення кліентам упраўленне разаслала па філіялах яшчэ адно пісьмо аб выкананні Закона аб мовах ад 5 лютага 1991 года № 08-3/129, — удакладняе **вядучы юрысконсульт Людміла КРЫВАНОСАВА**. — Між іншым, дадаткам да гэтага пісьма быў пераклад назваў месяцаў на беларускую мову. Хаця, безумоўна, ведаць гэта трэба і без службовай інструкцыі. Цяпер нашы супрацоўнікі вывучаюць мову на спецыяльна арганізаваных курсах па 36-гадзіннай праграме.

**— Значыць, у хуткім часе ў беларускамоўных кліентаў не будзе ніякіх праблем у ашчадных касах?**

— У прынцыпе — так, але трэба пры гэтым улічваць спецыфіку банкаўскай справы. Інструкцыя патрабуе, каб подпіс на расходным ордэры не адрозніваўся ад узору подпісу на банкаўскім дакуменце. Калі, напрыклад, кліент раней даў узор подпісу на рускай мове— «Иванов», а ў ордэры распісаўся «Іваноў», то ў такім выпадку адмова будзе абгрунтаванай: несупадзенне подпісу.

**— Але падстава для такой блытаніны ліквідуецца сама сабой, як толькі банкаўскае справаводства будзе перавэдзена на беларускамоўныя рэйкі?**

— Безумоўна. Мы, дарэчы, ужо размясцілі заказы на выраб ашчадных кніжак, бланкаў, разліковых чэкаў, квітанцый і іншых дакументаў на дзвюх мовах — рускай і беларускай.

**— Хіба ёсць такая неабходнасць? Чаму б не абмежавацца адной — дзяржаўнай?**

— Будзем глядзець праўдзе ў вочы: не ўсе добра разумеюць па-беларуску, нас жа столькі гадоў адвучвалі ад мовы...

**— Ну вось і была б у грамадзян нашай рэспублікі яшчэ адна нагода, каб ведаць мову— усведамленне, што без гэтага нават бланк не запоўніш. Своеасаблівы добраахвотна-прымусовы спосаб...**

— Лічым за лепшае не ствараць дадатковых цяжкасцей.

**— Значыць, пытанне наконт пераводу агульнага банкаўскага справаводства на дзяржаўную мову пакуль што не вырашана?**

— Мы толькі пачынаем рыхтавацца да гэтага, аналізуем сітуацыю... Банкаўская структура дастаткова кансерватыўная па сваёй сутнасці — так склалася гістарычна. Пераводзіць справаводства цалкам на беларускую мову пакуль што немэтазгодна. Трэба, каб закон дапамагаў працаваць, а не перашкаджаў. Глядзіце: усе сувязі, усе разлікі з дзяржавамі былога СССР — на рускай мове. Свежы прыклад: гэтымі днямі прыйшоў дагавор з Малдовы аб узаемных разліках — на рускай.

Калі не памыляюся, усе рэспублікі былога Саюза прынялі законы аб мовах — уявіце, калі б усе яны прысылалі дакументы на сваіх дзяржаўных мовах. Наколькі б гэта зацягнула банкаўскую работу! Дык навошта ж нам ствараць штучныя бар'еры? Пакуль для банкаўскай справы руская мова застаецца асноўнаю моваю зносін...

**Мы, гэтаксама як і супрацоўнікі паважанага Дзяржаўнага ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь, мусім стаяць на пазіцыях разважнага сэнсу, і таму згодны, што ў цяперашніх умовах руская мова дапамагае плённым кантактам паміж ашчадбанкамі рэспублік былога Саюза (яна ж, па сутнасці, з'яўляецца моваю міждзяржаўных зносін паміж краінамі СНД). Аднак нельга пагадзіцца з тым, што нацыянальны банк—быццам бы «ідучы насустрач шматлікім пажаданням працоўных»— і ў перспектыве плануе абслугоўваць кліентаў з дапамогаю «двух языкоў у роце». Бо асноўны яго кліент — жыхар нашай (суверэннай!) дзяржавы, і ён, адважымся сцвярджаць, разумее і паважае сваю дзяржаўную мову. Дык, магчыма, ёсць сэнс яшчэ раз усё грунтоўна ўзважыць: каб прыняць рашэнне друкаваць бланкі дакументацыі на адной мове — дзяржаўнай? Гэта не той выпадак, калі трэба палохацца неразумення і непаразумення.**

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

НЕ ДРОБЯЗІ

## Даруй нас... Даруй нам...

*Ад памылак не застрахаваны ніхто. Нездарма ж дасціпна кажуць: «І хітры ліс у пастку трапляе, і на дзеўку грэх бывае».*

*«Даруйце нас... Даруйце!» — чытаем загаловак аднаго з матэрыялаў «Рэспублікі» ад 27 чэрвеня. Газета цікавая, шануемая чытачом, апошнім часам усё больш настойліва паварочваецца да роднай мовы — тым больш прыкра за недарэчны «ляп». Аднак мы не сталі б прыгадваць яго наогул, калі б не патэлефанаваў пільны чытач:*

*— Пытанне на засыпку! Як правільна: «даруйце нас» або «даруйце нам»?*

*Ні для каго не сакрэт, што многія вывучаюць беларускую мову менавіта праз перыядычны друк. Калі газета напісала — значыць так правільна, так патрабуюць нормы літаратурнай мовы.*

*Але часцяком менавіта «дзякуючы» нам, журналістам, чытач атрымлівае мову ў перавернутым выглядзе: процьма «трасянкі», прамога калькіравання з рускай (як у гэтым выпадку: «простите нас»).*

*...Справа не ў тым, што мы гэтак фанабэрыста, пагардліва вырашылі «працягнуць» калег, па-ментарску памахаць ім пальчыкам, — не. Размова пра тое, што мы, газетчыкі, самі не заўсёды ўсведамляем адказнасць за чысціню мовы, за яе лёс, — і гэта крыўдна. Сорамна і за нашы памылкі, якія, здараецца, праскокваюць ў «Звяздзе». Мы вырашылі сказаць табе, чытач, пра ўсё адкрыта, каб яшчэ лепш усвядоміць гэтую сваю адказнасць і пастарацца не рабіць памылак, не ўводзіць цябе ў зман.*

**ДАРУЙ НАМ!**

## А настаўнік піша, піша...

*Тыдзень мінуў, як адшумелі выпускныя вечары ў школах, а настаўнікі яшчэ і дагэтуль не апамяталіся пасля напружанага марафону па запаўненню атэстатаў сталасці. Яны не перастаюць здзіўляцца: навошта афармляць атэстаты па даўнейшаму савецкаму ўзору — рабіць укладыш з адзнакамі не толькі ў беларускім варыянце, але і ў рускім таксама? Для якога ж «дзядзькі» мы цяпер гэта робім?*

*І другая навіна: калі раней ва ўкладышах асноўныя вывучаемыя прадметы былі надрукаваны друкарскім спосабам, дык зараз нават назвы прадметаў трэба пісаць «уручную» у двух варыянтах. Зайважце!*

*Навошта?*

*Безумоўна, можна было б зразумець гэту акалічнасць, калі б школы, ліцэі, гімназіі вялі падрыхтоўку па індывідуальных праграмах — магчыма, у перспектыве так і будзе. Але ж зараз як мінімум 10 аднолькавых дысцыплін вывучаюцца ва ўсіх агульнаадукацыйных установах.*

*Сёлета настаўнікі ўжо здалі свой экзамен. Але хочуць запытацца ў Міністэрства народнай адукацыі: ці мяркуецца і ў наступным навучальным годзе ператвараць настаўнікаў у спрынтэраў па адшліфоўцы каліграфічнага почырку?*

ПРЫНЦЫПОВАЕ ПЫТАННЕ

## Ці пад сваім прозвішчам я запісаны ў пашпарце?

**Дарагая «Беларушчына»!**

**Я хачу разабрацца са сваім прозвішчам: як трэба правільна пісаць Равяка ці Рэвяка, калі па-руску — Ревяко? У дзядулі на вёсцы кажуць Равяка, а ў школе настаўнікі раяць пісаць Рэвяка. Так, дарэчы, запісана і на адпаведнай старонцы майго пашпарта. У наступным годзе я спадзяюся памяняць яго на новы, беларускі ды баюся, каб туды зноў не трапіла памылка. Чаму мы павінны звацца інакш, чым зваліся нашы дзяды?**

**Руслан РАВЯКА.**

**г Баранавічы.**

**На пытанне нашага чытача мы папрасілі адказаць старшага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, кандыдата філалагічных навук Ганну УСЦІНОВІЧ.**

— Для напісання твайго, Руслан, прозвішча праз літару э няма ніякіх падстаў. Літара э ў беларускай мове пішацца, як правіла, толькі пад націскам. Выключэнне складаюць некаторыя словы іншамоўнага паходжання, напрыклад: рэдакцыя, рэвалюцыя. Калі ж напісаць тваё прозвішча праз э, то трэба вымаўляць Рэвяка.

Відаць, гэта прозвішча блытаюць з устарэлым і рэдкаўжывальным уласным асабовым імем Рэвека (рус. Ревекка). (Гл. М. Р: Суднік «Слоўнік асабовых уласных імён». Мн., 1965, с. 107). Але гэта зусім іншая рэч і аналогіяй для напісання служыць не можа. Дарэчы, лексічнай асновай, на базе якой утварылася прозвішча Равека, як і Равяка, Равякоў, з'яўляецца слова равека, што азначае равун, той, хто раве, як піша вядомы вучоны М. Бірыла ў сваёй працы «Беларуская антрапанімія. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі» (Мн., 1969, с. 344). Слова равека выкарыстоўвалася ў беларускай антрапаніміі здаўна, яно зафіксавана ўжо ў XVI стагоддзі.

Няма падстаў адхіляцца ад беларускіх правапісных нормаў і ў такіх прозвішчах, як **Рабушка**, **Рабцэвіч**, **Чахоўскі**, **Чарнякевіч** (а не Рэбушка, Рэбцэвіч, Чэхоўскі, Чэрнякевіч і г. д.) Толькі прозвішчы тыпу Жэбрак, Чэпік зусім справядліва пішуцца праз э—тут яно пад націскам.

Увогуле, правільнасць напісання прозвішчаў складае не толькі лінгвістычную, але і юрыдычную праблему. Многім беларусам прыходзілася і яшчэ прыйдзецца адчуць на сабе ўсе непрыемнасці, звязаныя са стратай, зменай спрадвечнага родавага прозвішча. Тут сплялося шмат прычын, і асноўная з іх — практыка перадачы беларускіх прозвішчаў па-руску ці па-польску. Але гэта ўжо тэма іншай, асобнай гаворкі. Калі яна зацікавіла чытачоў— чакаем канкрэтных пытанняў.

НАША КНІГА

## Апошняя «Бацькаўшчына»?

**У самы бліжэйшы час у кнігарнях паявіцца другі — і апошні! — выпуск штогодніка гістарычнай літаратуры «Бацькаўшчына»**

**Здаецца, зусім нядаўна мы ўсур'ёз турбаваліся аб сваёй нацыянальнай свядомасці, гаварылі аб нашым гістарычным невуцтве.**

**Выдавецтва «Юнацтва» адразу ж адгукнулася на патрэбу часу, заснаваўшы штогоднік гістарычнай літаратуры. У 1990 годзе выйшаў першы томік. Да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча быў прымеркаваны другі выпуск.**

**Але... Не летась пачалося. Загугнелі чыноўнікі: беларускамоўная кніга — стратная. Заказаў ад кнігагандлю не паступіла і «Бацькаўшчына» была перанесена на 1992 год. Была скасавана серыя: выданне ўжо не лічылася штогоднікам, а — альманахам. І да 75-х угодкаў М. Багдановіча «Бацькаўшчына» не паспела. Добра, што карэктуру не пусцілі пад нож. Бібліяфілы, радуйцеся!**

**Хутка выйдзе апошні альманах «Бацькаўшчыны». Абавязкова набудзьце экземпляр, каб захоўваць як засохлую кветку яшчэ адной няспраўджанай, задушанай задумы.**

**А ў апошняй «Бацькаўшчыне» вы, мілыя чытачы, зможаце знайсці творы, прысвечаныя пакутнаму Максіму — генію пакутнай краіны-бранячкі: Барыса Мікуліча, Міхася Стральцова, Зоські Верас... Ёсць там аповесць археолага Міхася Чарняўскага, апавяданні былога гулагаўца Яфіма Гаварушкі...**

**Галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва» Міхась Пазнякоў праз тыднёвік «Літаратура і мастацтва» заклікаў: «Абаронім нашу дзіцячую кнігу!». Я не заклікаю да абароны альманаха «Бацькаўшчына». Але хачу, каб мы ўсе разам падумалі пра лёс нечага найдаражэйшага, непаўторнага — але з такім жа самым найменнем.**

**НА ЗДЫМКУ: з ілюстрацый апошняй «Бацькаўшчыны» — рупліўцы Беларушчыны Зоська Верас, Аляксей Пяткевіч і Генадзь Каханоўскі (1982 г.).**

**Фота АЎТАРА.**

## Ля засохлае крыніцы

Задушана яшчэ адна задума.
І не забава ціха памірае.
Мы зблыталі Зямлю з ліхім Сатурнам,
сваю Дзяржаву з надмагільным краем.

І жвір цячэ са жмені абамлелай
замест жывой вады каля крыніцы.
О як у сэрцы жылка забалела:
жыву я не ў Рэспубліцы — ў бальніцы?

І перад небам стану на калені,
праменьчыку надзеі памалюся.
Заглушаныя нашыя памкненні,
засушаны карэнні Беларусі.

Каб не звялося продкавае збожжа,
не высахлі палеткі залатыя, —
вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа*:
мы самі не зваюем сілы злыя.

Ішлі пакорненька за кожным дурнем.
Мы не народ — абскубанае пер'е.
Задушана яшчэ адна задума.
Яшчэ адно узроджана бязвер'е.

* Радок Янкі Купалы з верша «Цару неба й зямлі».

**Сяргей ПАНІЗНІК.**



## Крыжаванка «Купалаўская»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛЯХ:** 5. Рускі паэт, чые вершы «Песня аратага», «Касец» і інш. Я. Купала пераклаў на беларускую мову. 7. Вёска на Маладзечаншчыне, радзіма Я. Купалы. 10. Беларускі пісьменнік і літаратуразнаўца, аўтар манаграфіі «Янка Купала. Духоўны воблік героя». 11. Верш Я. Купалы, напісаны ў 1908 годзе. 12. Верш Я. Купалы дарэвалюцыйнага часу, але змешчаны ўпершыню ў паэтычным зборніку «Спадчына» 16. Аўтар сцэнарыя кінафільма па купалаўскай «Паўлінцы». 18. Санет Я. Купалы, напісаны ў 1910 годзе ў Пецярбургу. 21. Персанаж паэмы Я. Купалы «Зімою». 22. Беларуская паэтэса, якой Я. Купала падарыў сваю кнігу з аўтографам. 23. Татарскі паэт, які перакладаў вершы беларускага песняра на татарскую мову. 24. Літаратуразнаўца, аўтар манаграфіі «Янка Купала. Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гг.». 25. Персанаж драмы Я. Купалы «Раскіданае гняздо». 29. Латышскі перакладчык Я. Купалы. 30. Верш, напісаны ў 1935 годзе ў Ляўках. 32. Першы друкаваны твор Я. Купалы. 34. Адна з ранніх паэм Я. Купалы. 35. Дзеючая асоба камедыі «Прымакі». 38. Персанаж з п'есы «Тутэйшыя». 41. Паэма Я. Купалы, якая мае падзагаловак «Гутарка з мінулага часу». 42. Беларускі кампазітар, аўтар шэрагу рамансаў на вершы паэта. 43. Горад, гісторыю заснавання якога намерваўся Я. Купала перадаць у паэме «Гарыслава». 44. Польскі кампазітар, вершаваны пераклад оперы якога «Галька» зрабіў Я. Купала.

**ПА ВЕРТЫКАЛЯХ:** 1. Беларускі акцёр, выканаўца ролі Пустарэвіча ў «Паўлінцы». 2. Аднагодак і саратнік Я. Купалы па літаратурнай творчасці і грамадскай дзейнасці. 3. Купалаўскі мемарыяльны запаведнік. 4. Галоўны персанаж п'есы «Тутэйшыя». 6. Беларускі акцёр, выканаўца ролі Быкоўскага ў «Паўлінцы». 8. Горад, дзе з канца 1917 да пачатку 1919 года жыў Я. Купала. 9. Засценак на Вілейшчыне, дзе Я. Купала сустракаўся з сялянамі, запісваў іх апавяданні, песні, чытаў свае вершы. 13. Беларускі дзяржаўны дзеяч і журналіст, памяці якога Я. Купала прысвяціў верш. 14. Горад маленства, літаратурнага дэбюта, месца працяглага жыхарства Я. Купалы. 15. Назва верша, першыя радкі якога «Спіце ўсе тыя, што праўды па свеце шукалі...». 17. Уладальнік прыватнай бібліятэкі «Веды», дзе ў 1908—1909 гадах працаваў Я. Купала. 19. Паэма Я. Купалы 30-х гадоў. 20. Вёска на Міншчыне, дзе некальні гадоў жыла сям'я Луцэвічаў. 26. Беларускі драматург і рэжысёр, пастаноўшчык спектакляў паводле твораў Купалы на тэлебачанні. 27. Беларускі драматург, ураджэнец Маладзечаншчыны, аўтар п'есы «Папараць-кветка». 28. Рускі паэт - класік, многія творы якога пераклаў на беларускую мову Я. Купала. 31. Жаночы персанаж з драмы «Раскіданае гняздо». 33. Сатырычная камедыя В. Дуніна-Марцінкевіча, перакладзеная Я. Купалам з польскай на беларускую мову. 36. Абеззямелены селянін у драме Я. Купалы «Раскіданае гняздо». 37. Персанаж з камедыі «Паўлінка». 39. Французскі пісьменнік і грамадскі дзеяч, якому Я. Купала разам з іншымі беларускімі пісьменнікамі накіраваў прывітанне з нагоды яго 70-годдзя. 40. Верш ляўкоўскага цыкла.

Склаў Валерый ПІНЧУК.
г. Бабруйск.

## Парады на ўсякі выпадак

Прапануем успомніць старажытны вяровачны вузел, які адрозніваецца ад астатніх прастатой і трываласцю.



Выпадзенне валасоў з малярнага пэндзаля лёгка спыніць. Для гэтага прасвідруйце ў абцiскальным кальцы дзірку і пусціце ўнутр некалькі кропель алею.



Калі труба аслабла і пракручваецца, яе можна ўмацаваць. Устаўце ў гняздо запалку ці некалькі запалак.



Зручны разак з ляза брытвы робіцца з дапамогай драўлянай лінейкі і вінцікаў ад цыркуля. Такі разак аблягчае работу і засцерагае рукі ад парэзаў.



Такі драўляны стрыжань з дзвюма дзіркамі на канцах дазваляе лёгка рэгуляваць нацягненне вяроўкі для сушкі бялізны.



405



«Вядро», якое можна зрабіць са старой аўтамабільнай камеры, не займае ў машыне шмат месца і не грукае.

## Электрычная кухня

**У многіх кватэрах — электракухні, ці, як іх называюць у быце, электраплiты.**

**У параўнанні з плітамі газавымі гэта, бясспрэчна, тэхнічны прагрэс: чыста, няма агню і сажы, цалкам выключана магчымасць атручвання з-за выпадковай уцечкі газу... Аднак той, хто прывык гатаваць на агні (дровах, газе), нялёгка пераходзіць на электракухню.**

**А між тым усё не так складана.**

### Электрапліта і посуд

Каструлі і патэльні павінны па магчымасці цалкам супадаць з паверхняй электрадыска на пліце. Несупадзенне дапускаецца толькі на 1 см па дыяметру. Калі дно пасудзіны значна меншае, награванне будзе адбывацца занадта хутка.

Дно посуда павінна быць ідэальна роўнае. У каструлях тыпу кацялка з выпуклым дном гатаваць на электрапліце практычна нельга.

Звонку дно пасуды трэба старанна ачысціць, гэтаксама, як знутры, бо яно датыкаецца да электрадыска. І дно, і электрадыск павінны быць сухія.

Накрыўкі пасуды павінны ляжаць шчыльна і быць цяжкімі. Пасуда па магчымасці — таксама цяжкая. Ежа ў эмаліраванай пасудзе на электрапліце гатуецца хутчэй, чым у алюмініевай.

### Рэгуляванне тэмпературы

Паколькі электрадыск награецца марудна і яшчэ больш марудна астывае, павышэнне і паніжэнне тэмпературы электраплiты не заўсёды дакладна звязана са ступенню гатоўнасці ежы. Перш чым паставіць пасуду на пліту, трэба пліту нагрэць. Выключаць жа яе неабходна да заканчэння гатавання — дыскі яшчэ доўга захоўваюць высокую тэмпературу.

Калі патрэбна мець так званую падаючую тэмпературу, разагрэць электрадыскі неабходна амаль да пачырванення, паставіць ежу — і пліту выключыць.

### Асаблівыя прыёмы

Пачынаць гатаванне ежы трэба з шасцёркі, а потым паступова зніжаць тэмпературу да адзінкі. Незадоўга да канца прыгатавання — выключыць цалкам. Гэта датычыць усіх смажаных і тушаных страў.

406

Адварваючы прадукты, заўсёды трэба браць вады ці іншай вадкасці (булёну, малака) менш, чым прынята звычайна. Так, для прыгатавання кашы наліваюць вады на 100—150 мл менш (у разліку на кожны літр).

Для бульбы і агародніны наогул дастаткова ўсяго 100—300 мл вады ,у залежнасці ад велічыні посуда.

Малако трэба кіпяціць толькі пры падаючай тэмпературы, г. зн. з выключаным электрадыскам і пад наглядам.

Каструлі не даліваць да краёў.

ЗААПАРК У КВАТЭРЫ

## Папугаі: размнажэнне



**«У мяне вельмі гаваркі хвалісты папугайчык, — піша ў рэдакцыю Вольга Аляксееўна Радкевіч з Любанскага раёна, — дакладней, яна, а не ён. Знесла пяць яечак, прасядзела на іх паўтара месяца і выкінула. І гэта не першы раз. Хацелася б ведаць, у чым справа?**

Хвалістыя папугаі, дарэчы, лепш за ўсіх даюць патомства ў няволі. Яны могуць выводзіць птушанят круглы год, але найлепш вясной і ўлетку, калі многа святла, цяпла і свежай зеляніны.

У залежнасці ад канструкцыі клеткі гняздовыя скрынкі можна падвешваць і ўнутры, але гэта непажадана. таму што нязручна

407

праводзіць кантроль. Скрынкі робяць з няструганых дошак лісцёвых парод дрэў таўшчынёй 2—2,5 см з накрыўкай памераў: для хвалістых — 25x15x15 см, неразлучных — 25x17x17 см і німфаў — 30x25x25 см.

Ляток можа быць квадратны ці круглы (памерам для дробных 5 см, сярэдняй велічыні — 8 см), робяць яго на адлегласці 2—3 см ад верхняй накрыўкі.

Для німфы і хвалістага папугайчыка ў дне скрынкі робяць паглыбленне, каб адкладзеныя яйкі ляжалі разам, не раскатваліся. Сюды насыпаюць трохі сухога бярозавага пілавіння — і гняздо гатова.

Хвалістыя папугаі пачынаюць размнажацца на 7—9 месяцы жыцця. Аднак дапускаць іх да спарвання лепш не раней, чым яны дасягнуць узросту двух гадоў, але не старэй 8—10 гадоў. Пажадана, каб самец і самка былі аднолькавай расфарбоўкі.

Калі пара падабрана ўдала, то хутка пасля развескі гняздоўяў паводзіны птушак становяцца неспакойнымі. Самец корміць сяброўку з дзюбы, перабірае апярэнне.

Каб самкі змаглі знесці добрыя яйкі і выгадаваць здаровых птушанят, патрэбны адпаведныя ўмовы. Акрамя зерневай сумесі, ім штодзённа даюць свежыя кветкі дрэў, агародніну, асабліва моркву і буракі, садавіну, розныя кашы, зеляніну, прарослае зерне пшаніцы і мінеральную ежу: мел ці вапняк. Калі ў ежы не будзе солей кальцыю, яйкі будуць без скарлупіны, або папугаі будуць расклёўваць ужо знесеныя нармальныя.

Прыкладна тыдні праз два-тры ў гняздовай скрыні з'яўляюцца 4—5 белых яек. Пасля адкладкі другога яйка самка пачынае іх наседжваць, а астатнія нясе праз дзень. Наседжванне працягваецца 18—24 дні. Бывае, што птушаняты не выводзяцца, ці выводзяцца не ўсе. Гэта — ад няправільнага кармлення і ўтрымання, няправільна зробленай гняздовай скрынкі.

За два-тры дні перад вывадам папугаям павялічваюць колькасць дадатковага корму, каб бацькі не адчувалі недахвату ежы, калі пачнуць карміць птушанят.

У час выкормлівання добра даваць папугаям сумесь з надранай морквы, мурашыных яек, здробненых сухароў з дабаўленнем рыбінага тлушчу. Ахвотна ядуць папугайчыкі салату і пятрушку.

Маладыя птушкі ўпершыню вылятаюць з гнязда ў дробных відаў на 35—46 дзень, у сярэдніх — на 50—60.

За год пара можа выгадаваць чатыры вывадкі, але пасля трэцяга (а яшчэ лепш другога) гняздовую скрыню трэба здымаць, каб папугаі змаглі адпачыць і правесці чарговую ліньку.

408

